


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

5 сакавіка 2004 года

№ 10 (463)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Тэлетыдзень 18 з «Рэгіянальнай газетай»

## Навіны рэгіёну



### Піяніна ад маэстра

**ВІЛЕЙКА.** За ўласныя грошы купіў фартэпіяна коштам больш чым 2 мільёны рублёў у падарунак школе мастацтваў рэктар Акадэміі музыкі прафесар Міхаіл Казінец. Інструмент загучыць у камернай зале вучэльні 12 сакавіка, напярэдадні святкавання яе 50–годдзя. Міхась Казінец – выпускнік школы 1956 года.

**Мікола ГАЙДУК.**

### Давай закурым

**АСТРАВЕЦ.** Не зарабіў на продажы цыгарэт у Літве жыхар вёскі Катлоўка. Калі ён у абход пагранічнага пункту пропуску Катлоўка спрабаваў перайсці мяжу з 500 пачкамі цыгарэт, то быў затрыманы пагранічным нарадам. Вынікам паходу стане канфіскацыя цыгарэт і штраф.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Для зручнасці

**ВАЛОЖЫН.** Дзесяць воданагравальнікаў італьянскай фірмы "Арыстон" прыдбаў аддзел адукацыі. Яны будуць устаноўлены на харчблоках школ раёна, каб забяспечыць якаснае мыццё посуду.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### А папяроджвалі!

**АШМЯНЫ.** Дашчэнту згарэў жылы дом і ўся маёмасць гаспадароў у вёсцы Каменка. У гэтым доме і раней былі загаранні, інспектары пажарнага нагляду звярталі ўвагу гаспадара на няспраўнасць печы.

**Святлана ЦІШКО.**

### Дзеці – дзецям

**СМАРГОНЬ.** Падарункі сваім беларускім равеснікам даслалі англійскія дзеці. Фламастары, цацкі, ласункі атрымалі ў сераду 38 хлопчыкаў і дзяўчынак, якіх гадуюць 24 прыёмныя маці.

**Ірына РАБУШКА.**

### Свет жанчын

**МАЛАДЗЕЧНА.** У Палацы культуры 5 сакавіка адкрываецца выстава «Свет вачамі жанчыны». На ёй прадстаўлены карціны, вышыўка і вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва маладзечанскіх мастачак-аматарак: **Вольгі Спірыдонавай, Тацяны Беразавец, Вольгі Маславай, Галіны Сушко.**

**Святлана ЦІШКО.**

### Банкамат у Купе

**МЯДЗЕЛ.** У Купе (курортны пасёлак Нарач) нядаўна запрацаваў другі ў раёне банкамат "Беларусбанка". На Мядзельшчыне больш за 4 тысячы ўладальнікаў пластыкавых картак "Беларусбанка".

**Аддзел інфармацыі "РГ".**







Работа ў педагога Маладзечанскай беларускай гімназіі Галіны Юрпалавай і сапраўды класная: з дзецьмі ніколі не бывае сумна, з імі заўсёды малады душой.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

# Між Манголіяй і Беларуссю

**МАЛАДЗЕЧНА. Галіна Юрпалава – вопытная настаўніца беларускай гімназіі. У яе шмат захапленняў, таму на яе занятках заўсёды цікава.**

Я доўга шукала гераіню для свайго аповяду. Хацелася, каб гэта была ці быў цікавы суразмоўца, чалавек, які штодня пазнае Сусвет і дзеліцца сваімі ведамі з навакольнымі.

— Алё!.. Галіна Іванаўна?

— Так.

Свой уступ да жанчыны я скончыла тым, што гэта вельмі важна і яна не павінна адмовіць. Галіна Іванаўна чамусьці падумала: хочуць пазычыць грошы.

– Не, – кажу. – Вось, што найгалоўнейшае ў вашым жыцці?

— Надвор'е ў доме і мае выхаванцы. А таксама захапленні, якія перадаю школьнікам.

«Напрыклад, на мінулым тыдні я асвоіла папяровую філігрань. Гэта калі наразаюць паперу танюткімі палоскамі, скручваюць яе і з дапамогай клею выкладаюць карцінкі», — зацікаўлена расказвае Галіна Юрпалава, нібыта і мяне хоча навучыць. Тым часам яе вучні рыхтуюць падарункі ў тэхніцы папяровай філіграні да свята жанчын. У пятніцу зробяць апошнія штрыхі і панясуць дадому.

У класе стаяць на паліцы саламяныя вырабы. Гэта таксама справа яе рук. Аматараў саломкі настаўніца сабрала ў гурток «Чарадзейная саломка». Сама ж захапілася ёй, калі малодшая дачка, Наташа, пайшла вучыцца ў мастацкую школу. Разам з дзяўчынкай і вучылася па кнігах. Работы Галіны Юрпалавай былі на выставах народных промыслаў падчас нацыянальных фестываляў беларускай песні і паэзіі, што ладзяць у Маладзечне.

Яе выхаванцы спрабуюць сябе і ў акцёрскім майстэрстве. Настаўніца стварыла тэатральную студыю «Лялька». Першы свой спектакль зрабіла за 2 месяцы. Цяпер працуюць над спектаклем па рускай казцы ў перакладзе на беларускую мову «Кот і ліса».

34 гады Галіна Іванаўна аддала адукацыі. Яна памятае ўсіх сваіх вучняў. Нават з незвычайнымі імёнамі: Энхтуяа, Болтбаатэр, Долмаа. Так звалі дзяцей савецкай школы №8 ва Улан-Батары, што ў Манголіі, дзе яна выкладала рускую мову і літаратуру. Са смехам успамінае выпадак, які здарыўся з калегай. Настаўніца паскардзілася дырэктару, што адзін з вучняў нічога не хоча рабіць, дрэнна вучыцца. І як на яго паўплываць — невядома. Гэта ж Садном (дзіця важнай персоны)! На што дырэктар, наш чалавек, адказаў: «А мне якая розніца са дном ён ці без дна».

Складана было запомніць і мангольскія адрасы, да прыкладу, Энхтайвны гудамж — праспект Міру. Але ж Галіна Іванаўна да моў здольная. Яна самастойна вывучыла польскую мову. Цяпер вядзе факультатыў у беларускай гімназіі.

— А кім бы вы сталі, каб не настаўніцай? — цікаўлюся ў жанчыны.

— Мне заўсёды хацелася працаваць у школе. У дзяцінстве гуляла, нават планы пісала. ...Я б магла быць і следчым...

**Ірына РАБУШКА.**

■ ВЫСТАВА

# Талентам адораны

**МАЛАДЗЕЧНА. Тры гады таму ён напісаў заяву на звальненне і, пакінуўшы тлумны горад, пасяліўся ў вёсцы. Бліжэй да зямлі, прыроды, зліцца з якой было даўняй марай. А сёлета 2 сакавіка Юрый Церабун зноў нагадаў пра сябе. Выставай "Мелодыі роднага краю", якая адкрылася ў музычным вучылішчы.**

Выставачная зала гудзела ў той дзень, як растрывожаны вулей. На сустрэчу з Церабуном прыйшлі яго былыя калегі з музычнай школы, вучні, сябры, родныя, знаёмыя, прыхільнікі таленту. Прыехалі і землякі са Смаргоншчыны, з якімі Юрый Церабун ніколі не губляў сувязі.

Шмат добрых, шчырых слоў сказалі ў яго адрас дырэктар музычнага вучылішча імя Агінскага **Рыгор Сарока**, дырэктар дзіцячай музычнай школы **Бэці Аўдзеенка**, загадчык аддзела культуры райвыканкама **Аляксандр Рамановіч**. Віншавалі Юрыя Церабуна ў гэты дзень і паэткі **Ларыса Сысун, Таіса Трафімава, брат Уладзімір**, калегі, сябры, якія ведаюць яго не толькі як выдатнага музыканта, але і як мастака, паэта, фатографа, журналіста.

Ён радаваўся і хваляваўся адначасова. За тры гады размеранага, спакойнага жыцця адвык ад увагі, славы, папулярнасці, канцэртаў, мерапрыемстваў, якія не так даўно былі яго неад'емнай часткай. Члена асацыяцыі беларускіх цымбалістаў, выкладчыка дзіцячай музычнай школы Юрыя Церабуна ведалі не толькі ў Маладзечне, але і далёка за яго межамі. А яшчэ — яго музыку, яго вучняў, роўных якім амаль што не было.

"На дадзены перыяд жыцця, — расказвае Юрый Васільевіч, — мне больш даспадобы чалавек працы, жыхар вёскі. Ей ён аддаў усе сілы, здароўе і ніколі не думаў пра сваю старасць. Дзеці разляцеліся, зямлёй займацца не хочуць, ды і не ўмеюць. Старым людзям няма каму дапамагчы. Вось яны і пакутуюць ад бездапаможнасці і адзіноты, хаця самі ў свой час адпраўлялі дзяцей у гарады".



«Вясковы краявід». Графічная работа Юрыя Церабуна.

Яму заўсёды крыўдна было чуць размовы пра тое, што людзі яго прафесіі, бюджэтнікі, сядзяць на шыі вытворцаў і эканомікі. Еў той хлеб, на які выдзяляла дзяржава са свайго сціплага бюджэту, і ніколі ў яе не краў. Таму і застаўся ні з чым, як у той тэлегульні "Слабае звяно". Тады і вырашыў падацца ў вёску, каб вырошчваць на святой зямлі бульбачку і агародніну. "Дзякуй Богу, пакуль што атрымліваецца, — гаворыць Юрый, — а вёска спрыяе майму мастацтву, і я ёй удзячны за гэта".

Амаль што на ўсіх яго карцінах пануюць вясковыя матывы. Тут і спелы ячмень, ад якога вее цеплынёй і летам, і перадпавальнічнае неба, і букет, складзены з палявых кветак-красак, і стомленая зімовымі халадамі вёска, што з нецярпеннем чакае прыходу вясны.

Пісаліся работы, відаць, па-рознаму. Нездарма ж у адным са сваіх вершаў, які прачытала падчас адкрыцця выставы паэтка Таіса Трафімава, мастак напісаў: "Каб ведаў хто, як гэта цяжка, раскрыць сябе праз прыгажосць". Зрабіць яму гэта дапамог выкладчык аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва музычнага вучылішча імя Агінскага **Генадзь Селядзец**, які ўвесь час быў галоўным кансультантам Церабуна. "Педагог патрэбен у любым узросце, — зазначае ён. — І ў той жа час заўсёды хваляваўся, калі прывозіў свае творы на экспазіцыю. Шчырыя мастакоўскія парады, выказаныя з педагагічнай тактоўнасцю, дапамаглі мне ў працы над гэтай выставай".

Не ўстрымалася, каб не спытацца пра тое, як жа ўжываюцца ў адным чалавеку музыкант і мастак і ці бачыць ён у іх розніцу. "Неяк слухаў выканаўцу на музычным інструменце, — гаворыць Юрый Церабун, — і падумаў: яго майстэрства, або недахопы, можна абмяркоўваць не адзін раз. Кожнае новае выкананне будзе іншым. У выяўленчым мастацтве мастак стварае твор адзін раз на ўсё жыццё, і ён не зменіцца".

Мастацкія творы ў карцінных галерэях альбо на выставах ён запамінае зрокава і трымае ў памяці кампазіцыю, колеравую гаму, каларыт і нават рамку. Калі неабходна, то там, як у камп'ютэры, знаходзіць тое, з чым сустракаўся. З музыкай справа іншая. Усю яе запомніць цяжка, але па стылю, нават не ведаючы твор, музыкант амаль беспамылкова можа сказаць, што гучыць. Самае моцнае ўздзеянне, па словах Юрыя Церабуна, аказвае на яго музыка толькі ў момант выканання, асабліва ў канцэртнай зале. Пасля канцэрта сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам Уладзіміра Федасеева ў Мінску амаль тыдзень не хацелася ні з кім размаўляць...

Гэты год для Юрыя Церабуна асаблівы. 11 красавіка ён адзначыць свой 60-гадовы юбілей. Радуецца і за тое, што год Малпы, у які нарадзіўся, абяцае быць спрыяльным у творчым накірунку. Дарэчы, яго брат, скульптар Уладзімір Церабун, таксама нарадзіўся ў гэты дзень, толькі двума гадамі пазней.

"У нас з ім шмат у чым аднолькавыя здольнасці і захапленні, — расказвае мужчына. — Паспрабавалі з ім усё: авіямадэлізм, музыку, фатаграфію, кіно, паэзію, журналістыку, педагогіку, армію, працу на зямлі і выўленчае мастацтва.

Цяжка вызначыць, што падабаецца сёння больш. Шкадую, што не стаў журналістам, але, не прайшоўшы такую школу жыцця, не змог бы напісаць нешта значнае, патрэбнае і прыгожае".

Аб чым марыць гэты чалавек сягоння? Запусціць, як і ў далёкім дзяцінстве, у неба сваю авіямадэль і паназіраць за яе палётам. Бо ўсё жыццё жыў і памятаў пачутыя калісьці словы: "Чалавек узлятае на такую вышыню, якая адпавядае даўжыні яго крылаў".

**Марына СЛІЖ.**

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## Пра самы кароткі дзень

У панядзелак у нашы дзверы пастукалася вясна. Пакуль што нясмелая, але такая жаданая і доўгачаканая. Бо як прырода, так і людзі стаміліся ад штодрай на маразы і завеі сёлетняй зімы. Сэрцу хочацца сонца, радасці, цяпла, якія звычайна прыносіць на сваіх крылах звонкі сакавік.

Менавіта з ёй, вясной, звязваюць людзі надзеі. На вуліцах раптам становіцца менш задумлівых твараў, жанчыны робяцца загадкавымі, прыгожымі. Рашучымі і надзвычай дзелавымі мужчыны. А чаму б і не. Свята на парозе, Дзень 8 Сакавіка. Самы час купляць падарункі, каб парадаваць сваіх жонак, каханых, матуль. Самы час гаварыць ім прыемныя словы, "засыпаць" кветкамі, цукеркамі, пацалункамі.

Ад усмешак, увагі, кампліментаў – галава кругам. І часам здаецца, што гэта самы кароткі дзень у годзе, так хутка наступае заўтра з яго буднямі, клопатамі. Застаецца толькі ўспамінаць учарашняе свята, калі ўспомніць, праўда, ёсць што.

"А мой жа, мой, — расказвала, душачыся смехам маладая жанчына, — прыпёр аднаго разу ў падарунак туфлі. Зірнула — аслупянела. Акурат такія толькі-што знасіла. Падзякавала, цмокнула ў шчаку, а сама да сяброўкі, што ў кіёску гандлюе. Памяняй, кажу, няўжо ж мне ўсё жыццё абутак аднаго фасону насіць. Замест карычневых прынесла нашмат святлейшыя, ледзь не бэжавыя. Абула, хаджу па кватэры з пакоя ў пакой і чакаю рэакцыі. Нарэшце не вытрымала, пытаюся: ну, як туфлі. Прыгожыя, усміхаецца муж, толькі, як купляў, яны мне цямнейшымі здаліся. Відаць, з-за асвятлення".

"Во гэта чалавек! — падхапіла яе субяседніца. – Хадзіў па магазінах, выглядаў, выбіраў. Не тое, што мой. Прынясе тры кветкі, а ў дадатак да іх канверцік з грашыма. Вазьмі, купі сабе што-небудзь. Маўчу, а свята сапсаванае. Ну, хоць бы раз падраскінуў мазгамі і прынёс не грошы, падарунак. А то, тры дзесяткі ў канверціку. Быццам чужы які, быццам і не любіць зусім".

Цяжка з намі, жанчынамі! А ці лёгка нам, жанчынам? Быць мамамі, жонкамі, гаспадынямі, кухаркамі, прачкамі, пасудамыйкамі, нянькамі, поварамі. І пры гэтым, нярэдка, кіраваць калектывамі, арганізацыямі, трымаць у сваіх руках спружыны, якія прыводзяць у рух цэлыя дзяржавы. У паэта А. Маркава ёсць на гэты конт выдатныя радкі: "Всё от женщины на свете, какова она – таковы и муж, и дети, такова страна". Ну, што тут можна яшчэ дадаць...



Разважала
**Марына СЛІЖ.**

# Хлопцы-кухары

**МАЛАДЗЕЧНА. У групе №27 на трэцім курсе Маладзечанскага будаўнічага прафесійнага ліцэя па спецыяльнасці повар-кандытар сярод 26 дзяўчат вучацца 4 хлопцы.**

Сяргей Поляк, Андрэй Смірноў, Антон Ганецкі, Аляксандр Цецін. Напярэдадні 8 Сакавіка яны расказалі чытачам «РГ», чаму выбралі такую спецыяльнасць і як адчуваюць сябе ў калектыве, дзе пераважаюць дзяўчаты.

У кожнага з іх была свая прычына на тое, каб пайсці вучыцца на повара, хоць паступіць на гэту спецыяльнасць хлопцу цяжэй, чым дзяўчыне.

Антон: — Гэта экзатычна. Мужчына-повар — рэдкасць.

Аляксандр: — Цяпер вялікі попыт на повараў-мужчын. Яны вышэй каціруюцца.

Сяргей: — Тут можна рэалізаваць сябе, свае задумы, напрыклад, прыдумаць новую страву.

Андрэй: — Гэта прафесія больш камфортная: повар заўсёды ў памяшканні, у цяпле.

Пры паступленні яны былі гатовыя да таго, што большасць калег складуць дзяўчаты. Больш таго, як сказаў Антон, кожны думаў, што будзе адзіным хлопцам у групе. Калі з пачаткам навучальнага года ўбачылі склад групы, вырашылі: так нават лепш, учатырох будзе цікавей. За два з паловай гады навучання адносіны з дзяўчатамі ў групе неаднаразова змяняліся. Антон і Андрэй падсумавалі: «З кімсьці зносіны з цягам часу пашырылі, з кімсьці — наадварот, сталі радзей кантактаваць». Як бы ні складваліся адносіны з калегамі процілеглага полу, хлопцы, што вучацца на іншых спецыяльнасцях, зайздросцяць нашым героям: ліцэй будаўнічы, таму ў астатніх групах дзяўчат мала, а то і зусім няма.


Аляксандр Цецін, Антон Ганецкі, Сяргей Поляк і Андрэй Смірноў вучацца на повара-кандытара ў Маладзечанскім будаўнічым ліцэі і мараць стаць дырэктарамі рэстаранаў.
Фота Святланы ЦІШКО.

Дзяўчаты з 27-й групы да «сваіх» хлопцаў прызвычаіліся, некаторыя пры іх вядуць абсалютна любыя размовы. Але і хлопцы ўжо прывыклі. «На першым курсе, можа, крыху саромеліся слухаць, а цяпер нармальна», — сказаў Сяргей Поляк.

Часам дзяўчаты раяцца са сваімі калегамі мужчынскага полу. Пытаюцца не толькі пра тое, колькі солі дадаць у страву, але і што падарыць хлопцу на дзень нараджэння.

Пасля заканчэння ліцэя хлопцы збіраюцца працягваць вучобу па спецыяльнасці. Толькі Андрэй будзе паступаць на геаграфічны факультэт. «У мяне там сябра вучыцца, — растлумачыў ён. — І я буду рыхтавацца. Маральна да экзаменаў ужо гатовы». У будучым сябры бачаць сябе не менш чым дырэктарамі рэстаранаў. «Увогуле, як атрымаецца. Але хацелася б стаць дырэктарам свайго рэстарана», — заўважыў Антон.

Пакуль што ў рэстаране па кантракце працуюць Сяргей і Антон. Праходзілі вытворчую практыку ў рэстаране «Маладзечна». Цяпер іх выклікаюць туды прыгатаваць для банкетаў салаты або гарачую мясную страву з гарнірамі. Андрэй Смірноў – мінчанін, таму яго практыка прайшла ў Мінску, ва Упраўленні справамі прэзідэнта.

Хлопцы пагадзіліся, што найлепшыя ў свеце повары — мужчыны. «Для жанчыны гэта штодзённы клопат, а мужчына гатуе для душы», — растлумачыў Андрэй.

Антон, Сяргей, Аляксандр і Андрэй раяць іншым хлопцам паступаць менавіта на спецыяльнасць повар-кандытар: увага прадстаўніц жаночага полу, сцвярджаюць яны, забяспечаная.

**Святлана ЦІШКО.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 26.2 руб. | 4.3 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2152,00 | 2153,00 |
| Еўра | 2726,37 | 2621,39 |
| Злоты | 557,73 | 540,64 |
| Літ | 789,62 | 759,14 |
| Расійскі рубель | 75,52 | 75,31 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2160/2170 | 2155/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 25.2 | 3.3 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13830 | 13830 |
| Сасіскі, 1 кг | 4890 | 4890 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 1000 | 1000 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1570 | 1430 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2400 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 950 | 1000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1050 | 1200 |
| Капуста, 1 кг | 450 | 350 |
| Морква, 1 кг | 500 | 600 |
| Лімоны, 1 кг | 3000 | 2900 |
| Апельсіны, 1 кг | 2050 | 1980 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1400 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2600 | 2800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2000 | 2400 |
| Сала, 1 кг | 3500 | 3500 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1100 |

# Скандал у шэрагах БРСМ

**БАРАНАВІЧЫ. Каля сотні навучэнцаў Баранавіцкага каледжа лёгкай прамысловасці, якія з'яўляюцца членамі Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі, вырашылі далучыцца да незарэгістраванага руху «Зубр». Трэцяга сакавіка яны прыйшлі на заняткі са значкамі гэтай апазіцыйнай арганізацыі, паведамляе агенцтва БелаПАН са спасылкай на прэс-службу «Зубра».**

Паводле слоў прэс-сакратара руху **Аляксандра Атрошчанкі**, баранавіцкія навучэнцы з БРСМ не выходзілі, а вырашылі далучыцца да «Зубра» паралельна. Падчас заняткаў старшыню ячэйкі БРСМ, актывіста «Зубра» **Мікіту Сасіма** выклікаў да сябе для гутаркі дырэктар каледжа.

Як паведамілі ў прэс-службе БРСМ, такога далучэння адбыцца не магло. Паводле слоў намесніка дырэктара каледжа па выхаваўчай рабоце **Наталлі Кучуры**, у іх навучальнай установе навучэнцы ходзяць з рознымі значкамі нават бэджамі, але гэта дазваляецца. Ці ўступаў хтосьці ў «Зубр», намеснік дырэктара, паводле яе слоў, не ведае. Галоўнае, што 3 сакавіка заняткі праходзяць па графіку, без зрываў.



**На агульным сходзе членаў БРСМ Баранавіцкага дзяржаўнага каледжа лёгкай прамысловасці імя Чарнышова, на якім было прынята рашэнне аб далучэнні да апазіцыйнага руху "Зубр" 2 сакавіка.** Фота ByMedia.Net

Між тым беларуская служба радыё «Свабода» паведамляе, што рашэнне аб далучэнні да моладзевага руху «Зубр» было прынятае 2 сакавіка сходам каледжаўскай суполкі БРСМ. Паводле сакратара арганізацыі Мікіты Сасіма, суполка налічвае 118 сябраў, з 64-х прысутных на сходзе навучэнцаў каледжу толькі шэсць чалавек устрымаліся, астатнія ахвотна падтрымалі ініцыятыву далучэння. Што датычыць матывацыі такога рашэння, то Мікіта Сасім кажа:

«БРСМ калі робіць нейкія палітычныя крокі, то гэта крокі ў падтрымку прэзідэнта. А большасць людзей у маёй арганізацыі, як высветлілася, яго не падтрымлівае. Палітычная дзейнасць «Зубра» відавочная, ягоныя мэты, я мяркую, ведаюць многія. Ведаюць іх і людзі з маёй арганізацыі, ведаюць і падзяляюць іх, таму і вырашылі далучыцца».

Між тым, Мікіта Сасім падкрэслівае, што аб выхадзе з Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі гаворка не ідзе і нічога надзвычайнага ў рашэнні сходу, ён не бачыць, кажа, што дзейнасць суполкі пасля далучэння да руху «Зубр» будзе для моладзі нашмат цікавейшай.

Супрацоўнікі цэнтральнага камітэта БРСМ адмаўляюцца каментаваць тое, што адбылося ў Баранавіцкім каледжы лёгкай прамысловасці. Маўляў, каментары могуць даваць толькі першы і другі сакратары ЦК БРСМ, з якімі журналістам не атрымалася пагутарыць. А вось што сказаў у інтэрв'ю "Свабодзе" намеснік кіраўніка камісіі па справах моладзі Палаты прадстаўнікоў **Мікалай Дубовік**:

«Я расцэньваю гэта як працу на нізкім узроўні кіраўніцтва гэтай мясцовай арганізацыі. Наша моладзь – гэта людзі, якія прызвычаіліся, каб з імі лічыліся. Гэта людзі, якік абяцанкамі нікуды пэўна ж не зацягнеш. Я лічу, што гэта прыватны выпадак, абсалютна не тыповы для горада Баранавічы. Бо там нармальная моцная моладзевая арганізацыя. А тое, што здарылася, гэта недапрацоўкі лідэраў гэтай мясцовай арганізацыі».

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Тры пажары

**МАЛАДЗЕЧНА. Невядомы падпаліў уваходныя дзверы ў кватэру на 9 паверсе у доме на вуліцы Будаўнікоў, 14-а.**

Дарослы сын зачыніў маці дома і пайшоў. Пазней у дзверы хтосьці пастукаў. Жанчына не адчыніла. Потым яна адчула пах дыму і ўбачыла агонь. З кватэры дапамог выбрацца сусед, які выбіў дзверы нагой.

Гэта трэці пажар за апошнія паўгода ў кватэры. Узбуджана крымінальная справа.

## Абакралі магазін

**МАЛАДЗЕЧНА. 27 лютага выкралі выручку з магазіна «Алтана», што ў Чысці.**

Злодзей скарыстаў момант, калі не было прадаўца, і забраў больш за 1 мільён рублёў. Узбуджана крымінальная справа.

## Гарэла Дубрава

**МАЛАДЗЕЧНА. У апошні дзень лютага загарэліся 10 хлеўчукоў па вуліцы Скарыны ў в.Дубрава.**

Гэта здарылася прыкладна ў дзве гадзіны ночы. Падлеткі, якія вярталіся ў гэты час дамоў, заўважылі, што гараць 2 пабудовы. Потым полымя перакінулася яшчэ на іншыя. Агонь знішчыў дах, перакрыцці, абгарэлі сцены.

Прыкметаў узлому, кароткага замыкання няма. Мяркуецца, што гэта падпал. На даху знайшлі рэшткі самагону і бутэлькі. Праводзіцца праверка.

**Па зводцы гаррайаддзела ўнутраных спраў падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

## Самагонцы канец

**СМАРГОНЬ. Супрацоўнікі міліцыі пачалі барацьбу з самагонаварэннем.**

У час правядзення аператы́уна-прафілактычных мерапрыемстваў знайшлі і знішчылі самагонны апарат і 1500 л брагі непадалёк ад вёскі Старая Рудня. Вядзецца праверка.

## Бізнэс пагарэў

**СМАРГОНЬ. Незвычайным бізнэсам заняліся муж з жонкай са Смаргоні: рэалізацыяй "жывога" тавару — прывабных маладых дзяўчат з горада і раёна. Месцам "гандлю" выбралі сталіцу.**

Яны знялі ў Мінску кватэру, куды прыходзілі мужчыны, каб прыемна правесці час з прыгажунямі. Аднак супрацоўнікі праваахоўных органаў хутка вылічылі прытон і ліквідавалі. А яго ўладальнікам давядзецца сядзець на лаве падсудных.

## Скончыў жыццё

**СМАРГОНЬ. З акна кватэры па вуліцы Юбілейнай, 9 выкінуўся мужчына.**

Сёлета гэта другі выпадак, калі маладыя людзі заканчваюць жыццё самагубствам падобным чынам.

## Наркотыкі канфіскаваныя

**АШМЯНЫ. На рэгіянальнай таможні затрымана вялікая партыя псіхатропных рэчываў. Вага кантрабанднага грузу – 54 кілаграмы.**

Наркотыкі выявілі пры агглядзе грузавога аўтамабіля ў спальным адсеку. Вадзіцель фуры, грамадзянін Літвы, ехаў у Вільню. Да гэтага яго шлях ляжаў з Галандыі ў Маскву. Там ён быццам бы атрымаў гэты груз, за які яму быў выплачаны аванс 50 долараў. Наркотыкі з Масквы ён павінны быў даставіць у Вільню. Аднак перасекчы беларуска-літоўскую граніцу яму так і не ўдалося. Узбуджана крымінальная справа.

## Смяротнае раненне

**СМАРГОНЬ. У цэнтральную раённую бальніцу быў дастаўлены 24–гадовы жыхар Смаргоні з агнястрэльным раненнем у галаву.**

Яно аказалася смяротным. Следства ўстанавіла, што ніякія трэція асобы да трагедыі не маюць дачынення.

## На лячэнне

**СМАРГОНЬ. У Смаргонскі РАУС па тэлефоне паступіла паведамленне ад фельчара «хуткай дапамогі» аб тым, што спрабаваў павесіцца 20–гадовы жыхар Смаргоні.**

Маладзёна давялося накіраваць на лячэнне ў спецыялізаваную бальніцу.

**Падрыхтавала Ірына ЛУГІНА.**

## Банкет для сяброўак

**ВАЛОЖЫН. У раённы аддзел унутраных спраў звярнулася работніца выканкама Дорскага сельсавета, жыхарка вёскі Доры. Пасля невялікага банкета, які яна наладзіла для сваіх сяброўак, жанчына недалічылася ў "дамашнім банку" 2670 амерыканскіх долараў і 190 тысяч рублёў.**

Следча-аператыўная група прыбыла на месца здарэння і затрымала сацыяльнага работніка аддзела працы і сацыяльнай абароны райвыканкама, якая падазравалася ў злачынстве. Узбуджана крымінальная справа.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ ПОСТ ДАІ

**У 2003 годзе, па звестках дэпартамента "Белаўтадар", на аўтамабільных дарогах агульнага карыстання адбылося 3.319 дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх загінулі 1.239 чалавек і атрымалі раненні 3.330 чалавек.**

**Паводле БелаПАН.**

## Наезд на п'яную студэнтку

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 лютага каля 12.10 вадзіцель Вергіліюс М., кіруючы аўтамабілем "Сітроэн Ксара, на 2-м кіламетры дарогі Маркава-Клочкава, у в.Талуі, не справіўся з кіраваннем, выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з аўтамабілем "Фольксваген Гольф", за рулём якога быў Віталь Р. У выніку сутыкнення Віталь Р. атрымаў цялесныя пашкоджанні ў выглядзе траўмы груднай клеткі, пераламу рэбраў і груднога пазванка.**

28 лютага ў дзяжурную часць міліцыі паступіла паведамленне аб тым, што ў траўматалагічнае аддзяленне гарбальніцы трапіла вучаніца 10 "В" класа вячэрняй школы Ірына Х. Следча-аператыўнай групай міліцыі ўстаноўлена, што каля часу ночы студэнтка 2 курса Мінскага інстытута кіравання Таццяна Б., кіруючы аўтамабілем "Форд Арыён", на аўтадарозе Маладзечна-Смаргонь, у в.Лебедзева, паблізу перасячэння з аўтадарогай Лебедзева-Беніца-Крэва, здзейсніла наезд на праезнай частцы на Ірыну Х., якая была ў стане алкагольнага ап'янення.

**Уладзімір ЛУКАШЫК, інспектар ДАІ па адміністрацыйнай практыцы.**

■ ПАСЛЯ ЗДАРЭННЯ



**Вёску Дамашы ў маі мінулага года тройчы залівау дождж. Стыхія нанесла ўрон многім вяскоўцам.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Пацярпелыя атрымалі кампенсацыю

МАЛАДЗЕЧНА. Надаўна жыхарам вёскі Дамашы, якія пацярпелі ад дажджоў у 2003 годзе, была выплачана кампенсацыя. Сума не налічвалася, выходзячы са страт ураджаю і пашкоджанняў надворных пабудоў.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Што жадае жанчына

**Заўсёды цяжка адгадаць, чаго жадае жанчына ў каханні, сям'і ці ў падарунак, бо, як сказаў адзін мудрэц, "жаночая логіка - гэта адсутнасць усялякай логікі." Хай не пакрыўдзяцца на мяне жанчыны. Па-першае, я трохі ведаю жаночую логіку, бо на мяне аднаго прыходзіцца чатыры жанчыны: жонка, дачка, маці і цешча. Як гаворыцца, прадстаўлены ўсе вагавыя і ўзроставыя катэгорыі, і ў кожнай – свае забабоны.**


Хочацца, каб спраўдзіліся мары... Фота ByMedia.Net

Па-другое, і мы, мужчыны, не лепшыя, асабліва палітыкі (часта выдаём жаданае за рэальнае). Напярэдадні Міжнароднага жаночага дня я паспрабаваў даведацца, чаго жадаюць і чага чакаюць дзяўчынкі Вілейскага ПТВ-200. У апытанні прыняло ўдзел 36 дзяўчат ва ўзросце 17-19 гадоў (прафесія майстар-цырульнік). У каханне верыць 27, не верыць 9. Тым не менш, 35 хочуць стварыць сям'ю, праўда, адна з іх — пасля 35 гадоў, і толькі 1 – не (прытым гэтае "не" – катэгарычнае). Калі самі дзяўчынкі хочуць выйсці замуж? Ва ўзросце 19 гадоў — 2, 20 — 14, 21 — 8, 23 — 6, 25 – 4. 4 дзяўчынкі хацелі б, каб іх выбраннік быў старэйшы за іх на 2-3 гады, 14 – на 3-5, 4 — на 5-7, 10 – на 7-10. Яшчэ 3 не супраць, каб ён быў за іх маладзейшым. Дзяцей хочуць мець 34 будучыя жанчыны: 4 — аднаго, 26 — дваіх, 4 — траіх. 10 выйдуць замуж па разліку, 14 — па каханні, 6 лічаць, што павінна прысутнічаць і тое, і другое, і 4 – як атрымаецца.

А вось некаторыя азначэнні кахання. Каханне – гэта акіян пачуццяў. Каханне – гэта ртуць, можна ўтрымаць у адкрытай далоні, але не ў сціснутай руцэ. Каханне – гэта храм, у які трэцяму ўваход забаронены. Каханне – гата полымя, калі ў яго не падкідваць дровы, яно патухне. Каханне – гэта рака, ў якой плывуць два дурні. Каханне – гэта кубак з ядам, пакрыты шакаладам.

І апошняе пытанне: "Што б вы хацелі атрымаць у падарунак на 8 Сакавіка?". 9 дзяўчынак адказалі, што незабыўны вечар, 8 – усё роўна, калі гэта падарунак ад каханага, 8 – кветкі, 4 – мабільнік, брыльянт, кватэру, спартыўную машыну, шчаня, пальму, вялікую мяккую цацку.

Спадзяюся, што гэта публікацыя дапаможа мужчынам выбраць падарунак, а жанчынам атрымаць ад яго задавальненне.


Адкрыты ўрок вядзе Ігар КІЦКАЎ, kitikoff@tut.by.

**У якім веку ісці замуж?**

23 гады — 18%
21 год – 24%
25 гадоў – 12%
20 гадоў – 40%
19 гадоў – 6%

Вынікі апытання, праведзенага сярод навучэнак Вілейскага ПТВ–200

■ ЗНАЁМЦЕСЯ – КІЯСКЁР

# Лёгкага хлеба не бывае

**МАЛАДЗЕЧНА. У кіёску №14, што размешчаны побач з Чысцінскім гандлёвым цэнтрам, гаспадарыць Святлана Шаварда.**

У адрозненне ад сваіх маладзечанскіх калег, якія звычайна працуюць парамі, яна адна. Няма патрэбы наладжваць у шапіку, што абслугоўвае невялікі пасёлак, двухзменны графік работы. "А вось пераехаць на іншае месца, бліжэй да рынку, – разважае Святлана, — было б варта. Месяц таму там зачынілася палатка, што гандлявала газетамі, і нашы паслугі былі б у самы раз. Хаця недахопу кліенгаў не адчуваю і тут. Кожны месяц выконваю, а часам і перавыконваю дадзеныя планы".

Пасля заканчэння школы Таццяна марыла паступіць у Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум. З дзяцінства любіла чытаць і па-добраму зайздросціла мясцовым бібліятэкарам, якія цэлымі днямі знаходзіліся ў царстве кніг. А прыйшоў час ехаць здаваць уступныя экзамены – забаялася. "Дамаседка я, — гаворыць жанчына.


Святлана Шаварда працуе ў кіёску №14, што ў пасёлку Чысць. Фота Марыны СЛІЖ.

– Таму, напэўна, не знайшоўшы сабе напарніцы, і падалася за аднакласніцамі ў Маладзечна. Вучылася за швачку, а душу адводзіла ў гарадскіх кнігарнях. На кнігі грошай не шкадавала ніколі, таму магу пахваліцца добрай хатняй бібліятэкай".

У кіёску Святлана працуе крыху больш за два гады. Кажа, падабаецца. Адна бяда, што холадна. У моцныя маразы не выратоўваюць ні абагравальнік, ні валёнкі, якія прынесла з дому. "Хаця, лёгкага хлеба не бывае, — заўважае кіяскёр. – Амаль што ў кожнага чалавека ёсць свае праблемы, свае нюансы ў рабоце. Ці ж лягчэй жанчынам, што стаяць за станкамі альбо гандлююць на рынках? Думаю, не".

Цэнтралізаванага завозу газет і часопісаў у шапік няма. Па перыядычныя выданні Святлана ходзіць у мясцовае аддзяленне сувязі сама. Важкія пакункі з газетамі і часопісамі носіць у руках. "Часам гляджу на мужчын, — смяецца кіяскёр, — і думаю: ну, ці ж знойдзецца хоць адзін донжуан, які прапане паднесці тавар? Дарэмна! Відаць, звыкліся мужчыны з меркаваннем, што мы, жанчыны, моцныя".

Пасля работы Святлану Шаварду чакае сям'я: сын і дачушка, якія вечна спрачаюцца; нешта дзеляць паміж сабой, муж. Побач з імі і адпачывае душой, набіраецца сіл на наступны дзень.

Марына СЛІЖ.

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары свіамі ўспамінамі дзеліцца Аненя Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Цёця Гэлька мела трох сыноў старэйшых ад мяне й даволі вялікую хату. Вось у гэтай хаце, калі я прыяжджала, сабіралася моладзь мястэчка. Прыходзіла двух Чантарыцкіх, Мецька й Гэнюсь, Чэсь Васілевіч, Чэсь Грышкевіч, Ян і Казік Краўчонкі, Чэсь Ханяўка, Тома Грышкевіч, Казік Чантарыцкі, Болюсь Пляшкун і іншыя. Зь дзяўчат прыходзіла Валя Катковіч — мая сястра стрыечная, Анелька Сьмігельская, Янка Хацяновіч, Зося Сьмігельская й Зося Груздь, Франя Грышкевіч, Маня Лупіновіч і іншыя. Сабраўшыся, сьпявалі мы беларускія песьні — рукавадзіў намі Мецька Чантарыцкі, гулялі ў розныя гульні, як тэлефон, калі зьбіралі фанты, танцавалі. Перад Новым Годам усёй грамадой ішлі завалівацъ. Так завалілі бярвеньнямі й чым папала чыесь дзьверы, што рана не маглі выйсьці з хаты. Такі быў у нашым мястэчку звычай. Таксама замянялі шыльды пры розных крамах і ўстановах. Дзе была пякарня, там павесілі шыльду мяснай крамы, на пошту павесілі шыльду рэстарана і г.д. Бываў разам з намі і вучыцель нашай гімназіі прафэсар Вінцэнты Грышкевіч. Калі я ад'яжджала ў Вільню, усё гэта таварыства праводзіла мяне на станцыю.

У 1934 годзе я здала матуру (атрымала сярэднюю адукацыю – рэд.). Паўстала пытаньне, што рабіць далей. Пра якую-небудзь працу ня можна было й марыць з матурай беларускай гімназіі. Пастанавіла паступіць ва унівэрсытэт, дзе, маючы добрыя вынікі ў вучобе, можна было атрымаць стыпэндыю, танныя абеды й зарабляць на жыцьцё карэпэтыцыямі.

Хачу яшчэ сказаць, што апарача вышэйпамянутых вучыцеляў у нашай гімназіі выкладалі: Луцкевіч, браты Ільляшэвічы, Вінцэнты Грышкевіч, Шчасны, Барысаглебскі, Барыс Кіт, Александровічова, Косінская і маладыя немкі, якіх прозьвішча я забыла. Ах, яшчэ і Паляк Глухоўскі, Заморын, Шнаркевіч, Анцукевіч.

Я вельмі любіла сваю родную мову. Было мне цяжка, калі чула, што называюць яе простай ці мужыцкай. Перажывала, калі бачыла, што некаторыя сяброўкі з клясы ў публічных месцах паніжаюць голас або пачынаюць гутарыць папольску, стыдаючыся беларускай мовы. Я наадварот: знайшоўшыся сярод таўпы людзей, павышала голас, каб усе чулі маю беларускую мову. Мне здавалася, што прыгажэйшай і мілейшай няма на цэлым сьвеце!

У нашым мястэчку шмат было сьведамых і шчырых Беларусаў. І ня толькі тыя, якія вучыліся ў беларускай гімназіі, але таксама й вучні школ польскіх, як Чантарыцкія, Краўчонкі; Ханяўка, Тамаш Грышкевіч, Будзькі, Мядзёлкі былі вучнямі гімназіі беларускай. Мы любілі беларускія песьні й толькі такія сьпявалі. Вечарыны зачыналі ад ляволіхі. Сьпявалі на чатыры галасы. Летам выходзілі ў жыта й там заводзілі. А трэба сказаць, што ў Будславе было многа польскага войска й кругом было чуваць і польскую мову. Шмат дзяўчат выйшла за вайсковых замуж. Усё ж-такі не забывалі й сваёй мовы.

Наш Будслаў называлі сталіцай Беларусі. Можа й слушна. Тут была арганізавана пасьля I сусьветнай вайны беларуская гімназія. З Будслава паходзілі шчырыя патрыёты Беларусі — Эдвард Будзька, Язэп Гапановіч, Вінцэнты Грышкевіч і іншыя. Перад домам Гапановіча яшчэ да вайны іграў аркестр не на загад цара, а на чэсьць знанага Юзэфа, за ягоныя подзьвігі ў час вайны. З Будслава паходзіць пляменьнік Будзькі, вядомы цяпер пісьменнік Эўгеніюш Паўкшта. З Будслава была таксама й мая стрыечная сястра Паўліна Мядзёлка. Часта можна было ўбачыць у Будславе беларускую п'есу на сцэне, іграную артыстамі-аматарамі. Будслаў называлі малым Парыжам, бо мода прыходзіла з захаду раней у наша мястэчка, як у вялікі горад. У Будславе былі два духавыя аркестры — вайсковы й пажарны. Будслаўскія людзі праславіліся і ў Амэрыцы. Іх спаткаць можна ва ўсім сьвеце.

**Ва унівэрсытэце**

Прыехала я ў Вільню з Будслава ў вадной выцертай сукенцы, стаптаных пантофлях і з 2 залатоўкамі ў руках. Затрымалася ў стрыечнага брата Вітаўта Галавача, які жыў разам з Чэсем Ханяўкам. Займалі яны два пакоі. Пасьля некалькіх дзён перайшла я да Уладзі Катковіча — стрыечнага брата таты. Абедала я пераважна ў сваіх сяброваk, якія, знаючы маё цяжкае матэрыяльнае палажэньне, запрашалі да сябе. Найбольш у тым часе памагала мне абедамі Рая Падабед.

Запісалася я ва унівэрсытэт на клясычную філялёгію, бо вельмі любіла лацінскую мову. Пытаньне: скуль узяць грошы, каб заплаціць за вучобу?

Аneля КАТКОВІЧ.

Працяг будзе.

■ АЎТАЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# Першы савецкі аўтамабіль

**Першым савецкім легкавым аўтамабілем стаў "НАМІ–1", сканструяваны Навуковым аўтаматорным інстытутам. За ўзор быў узяты чэхаславацкі аўтамабіль "Татра–12", які першым фінішаваў на аўтапрабегу Ленінград–Тыфліс–Масква (5300 км).**

У студзені 1928 года "НАМІ–1" сталі выпускаць на іжорскім заводзе "Спартак". У 1928, 1929 і 1930 гадах выпушчана 50, 156 і 150 малалітражак. Да нашых дзён захавалася 2 аўтамабілі "НАМІ–1" і 2 шасі.

**Юры ЕРМАЛЮК.**





**Першы савецкі легкавы аўтамабіль «НАМІ-1» заўсёды збіраў шмат цікаўных. Расія, якая і сёння не перасела яшчэ поўнасцю з калёс на аўто, была здзіўленая.**

Фота з архіва "РГ".

## Тэхнічныя характарыстыкі «НАМІ-1».

| | |
|---|---|
| Кузаў | фаэтон з брызентавым тэнтам |
| Колькасць месцаў | 4 |
| Колькасць дзвярэй | 2 |
| Руль | правы |
| Даўжыня, мм | 3700 |
| Шырыня, мм | 1500 |
| Вышыня, мм | 1650 |
| База, мм | 2880 |
| Каляіна, мм | 1100 |
| Кліранс, мм | 260 |
| Маса, кг | 700 |
| Рухавік | V-падобны 4–тактны, 2–цыл. |
| Аб'ём, куб.см. | 1160 |
| Магутнасць, к.с. | 22 |
| Максімальная хуткасць, км/г | 75 |

■ КОНКУРС




## Выйграй прыз ад 1-й акумулятарнай

**Конкурс, які "РГ" праводзіць разам з 1–й акумулятарнай кампаніяй, вітае прыхільнікаў аўтамабільнага свету! Жадаем спраўнага акумулятара, масла ў норме, роўнай і сухой дарогі.**

Месяц таму мы прапанавалі з трох варыянтаў адказу выбраць правільны. Пытанне было наступным:

**Першым у Савецкім Саюзе масавым легкавым аўтамабілем з паветраным ахалоджаннем рухавіка быў:**
**А) "ЗАЗ-965",**
**Б) "НАМІ-1",**
**В) "ЛУАЗ-969".**

Пытанне, на мой погляд, было крыху больш складаным за папярэднія, таму і адказаў на рэдакцыйным стале аказалася менш – каля дзесятка. А правільна адказаў толькі адзін чытач. Так што на гэты раз мы абышліся без жараб'ёўкі. Правільна адказаў Аляксандр Пакладок з Маладзечна. Так, гэта сапраўды "НАМІ–1", а не "ЗАЗ–965", як напісалі ўсе астатнія. Аляксандру мы і ўручым прыз – каністру высакаякаснага маторнага масла. Па прыз можна прыйсці ў рэдакцыю. Віншуем пераможцу!

### Адкажыце на пытанне

**Як у 1960 годзе, калі пачаўся выпускацца "гарбаты "Запарожац" называўся Запарожскі аўтазавод:**
**А) імя Ліхачова,**
**Б) "Спартак",**
**В) "Камунар"?**

Выберыце з трох адказаў правільны і дашліце яго на паштоўцы на адрас рэдакцыі. Тэрмін прыёму іх – да 25 сакавіка. Вынікі тура будуць апублікаваныя ў наступным выпуску "Аўта–мота".

**Мікола ГАЙДУК.**

■ АЎТАМАРКА

## Папулярныя ВАЗы

**МІНСК. Самай распаўсюджанай аўтамабільнай маркай у Беларусі застаюцца аўтамабілі ВАЗ. Зараз у Беларусі органамі дзяржаўтаінспекцыі зарэгістравана 413 тысяч аўтамабіляў ВАЗ, што складае прыкладна чвэрць усяго аўтамабільнага парка, які знаходзіцца ў асабістым карыстанні. Пра гэта 18 лютага на прэс-канферэнцыі паведаміў кіраўнік ААТ «МінскЛада», якое з'яўляецца генеральным імпарцёрам расійскага «АўтаВАЗа».**

Прадпрыемства «Мінск-Лада» з'яўляецца пераемнікам мінскага цэнтра «АўтаВАЗтэхабслугоўванне», які ствараўся падчас фарміравання сэрвісна-збытавой сеткі Волжскага аўтазавода ў пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Зараз «Мінск-Лада» мае статус генеральнага імпарцёра прадукцыі расійскага «АўтаВАЗа». Да гэтага моманту «Мінск-Лада» заключыла ў Беларусі 8 дылерскіх пагадненняў, яшчэ 13 прадпрыемстваў атрымліваюць аўтамабілі па дагаворах пастаўкі.

Паводле слоў кіраўніка прадпрыемства «МінскЛада» Уладзіслава Туркіна, цікавасць да славутай расійскай аўтамабільнай маркі не змяншаецца. Штогод у Беларусі прадаецца каля 2 тысяч новых аўтамабіляў маркі ВАЗ. Размова ідзе пра машыны, якія выпускаюцца не толькі на галаўным заводзе ў Тальяці, але і на зборачных канвеерах у іншых гарадах. Самай папулярнай вазаўскай мадэллю ў Беларусі застаецца «сямёрка».

У сваю чаргу, «АўтаВАЗ» імкнецца адпавядаць узрастаючым патрабаванням свайго спажыўца і праводзіць сур'ёзнае аднаўленне мадэльнага рада. Роўна праз 9 месяцаў, 18 лістапада 2004 года, павінен пачацца выпуск першага аўтамабіля сямейства ВАЗ-1118 «Каліна». Гэты аўтамабіль прызначаны для сярэдняга класу пакупніка і, як абяцаюць кіраўнікі ААТ «Мінск-Лада», будзе мець спажывецкія ўласцівасці на ўзроўні сусветных патрабаванняў. Плануецца, што «Каліна» будзе каштаваць каля 6 тысяч еўра. Паводле слоў Туркіна, пры больш высокай цане аўтамабіль будзе цяжка выйграць у канкурэнтнай барацьбе з заходнімі аналагамі. Кіраўнікі «Мінск-Лада» разлічваюць упершыню прадэманстраваць гэтую машыну беларускай публіцы падчас штогадовага аўтасалона «Мотаршоу», які пройдзе з 4 па 9 мая ў Мінску.

Паводле слоў спецыялістаў, «Каліна» адпавядае ўсім сучасным патрабаванням бяспекі і экалогіі. Маючы некалькі меншую даўжыню ў параўнанні з аўтамабілем сямейства «Самара», «Каліна» больш манеўраная і прыстасаваная да ўмоў руху ў гарадскім асяроддзі.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

## Volkswagen прадставіў concept C

**2 сакавіка канцэрн Volkswagen на аўтасалоне ў Жэневе прадставіў новы 4-месны купэ-кабрыялет concept C.**

Канцэпт распрацаваны на абсалютна новай платформе і ўяўляе перспектыву новага дызайну будучых аўтамабіляў Volkswagen. Спераду прагрэсіўны "новы твар" фарміруюць зробленая з алюміню "гербавая рашотка радыятара", а таксама ярка паказаныя круглыя фары. Аматары ж "пакатацца з вецяркам" за лічаныя секунды могуць ператварыць купэ ў кабрыялет. Незвычайны той факт, што ў дах аўтамабіля інтэграваны вялікі шкляны ссоўны люк. На аўтамабіль усталяваны 2.0-літровы рухавік FSI магутнасцю 150 к.с.

**avtoinform.ru.**

■ ЖАРТАМ

## Інструкцыя для жанчын

**Праяўленне няспраўнасці ў аўтамабілі і спосабы яе ўхілення**

1. Не зашпільваецца рэмень бяспекі – Адрэгулюйце даўжыню рэменя па рэальных параметрах фігуры, а не 90х60х90.
2. Не працуе запальванне – Змяніце запальнічку.
3. Аўтамабіль не слухаецца руля – Пачытайце аўтамабілю Спока, Макаранку, Сухамлінскага.
4. Руль не слухаецца аўтамабіля – Крыкніце вадзіцелю суседняга аўтамабіля, каб перастаў сігналіць.
5. Адсутнасць бачнасці ў люстэрку задняга віду – Дастаньце люстэрка з касметычкі.
6. Адсутнасць бачнасці скрозь лабавое шкло – Выйдзіце з аўтамабіля і закрыйце капот.
7. Хаатычнае мільгаценне лямпачак на прыборнай панэлі – Перастаньце пудрыць мазгі бартавому камп'ютэру.
8. Аўтамабіль едзе без дазапраўкі – Дастаньце з бака шланг і вярніце раздатачную калонку на заправачную станцыю.
9. Бягучы радок у бакавым люстры – Ад'едзьце ад рэкламнай шыльды.
10. Не гараць супрацьтуманныя фары – Зніміце чахлы з фар.
11. Машына стаіць, як укапаная – Адкапайце.
12. Не працуе дворнік – Выклічце мыйшчыка вокнаў.
13. Не працуе гукавы сігнал – Крычыце.
14. Рухавік глухне – Спыніце крык.
15. Прывязваюцца аўтамабілі – Убярыце буксіровачны трос.
16. Прывязваюцца аўтамабілісты – Прыбярыце з бачнага месца пакет з рэкламай калготак.
17. Не дзейнічае ручны тормаз – Перастаньце ўпірацца ў аўтамабіль рукамі і знайдзіце неабходны рычаг.
18. Ручны тормаз "не адпускае" – Дайце па руках нахабніку.
19. Прыёмнік ловіць толькі матылькоў – Устанавіце замест сачка антэну.

І ўвогуле, жанчына за рулём – лепшае ўпрыгожанне любога аўтамабіля. А разглядаць упрыгожанне лепш, калі яно нерухомае!

**Паводле Rul.ru.**



**Існуе два погляды на жанчыну за рулём. Першы – жанчына лепш спраўляецца з гэтай справай за мужчыну. Другі – жанчына горш спраўляецца з гэтай справай за мужчыну. І толькі ў адным апаненты сыходзяцца – жанчына заўсёды лепш глядзіцца за рулём, чым мужчына.**

Фота ByMedia.Net

■ ПАРАДЫ МУЖЧЫНАМ

# Каб не жонка і не дзеці, як жылося б нам на свеце

**Перад святам 8 Сакавіка мужчыны ўзрушаныя, заклапочаныя, яны не ведаюць, што ж падарыць сваім жонцы, дачцэ, маці. А некаторыя шчэ дбаюць і пра цешчаў.**

Я пабывала ў розных іпастасях: была дачкой, жонкай, цяпер маці, вось толькі цешчай... але гэта яшчэ наперадзе. Таму магу заспакоіць мужчын і даць ім некалькі, на мой погляд, карысных парадаў.

Хачу адразу падзяліць мужчын на забяспечаных, сярэдняга дастатку і тых, у якіх вецер гуляе ў кішэні. Дык вось, забяспечаныя мужчыны, не думайце і купляйце сваім жонкам, каханым падарожжы, путёўкі ў далёкія і блізкія краіны, а цешчам можна і на Кіпр, пажадана на некалькі тыдняў. Вы ж і для іх добрую справу зробіце і самі адпачнеце ад усялякіх настаўленняў. А можаце і самі разам з каханымі паехаць адпачыць ці хоць на гэтыя тры дні злётаць, ну, напрыклад, у Парыж, паглядзець на Эйфелеву вежу – адно з цудаў свету, наведаць Дыснэйлэнд, прайсціся па вуліцы Мулен Руж. А калі не хочацца падарожнічаць, дык купляйце сваім жанчынам аўтамабілі, а цешчы дык самалёт і адпраўляйце яе на Паўночны полюс.

Мужчынам з сярэднім дастаткам прыйдзецца набыць сваім жанчынам падарункі для задавальнення цела: усё з адзення, парфумы, касметыкі, а таксама розныя солі, алеі для ванны: няхай яны адчуюць асалоду ад вады дома, бо ім не пашэнціца гарачыней паўночных краінаў ці экзатычных, як, напрыклад, вострава Балі ў Інданэзіі.

А мужчынам, у якіх няма грошай, застаецца толькі дома падлогу мыць, і прытым кожны дзень. І жонку на руках насіць на работу і з работы. Але, можа, і гэта нядрэнна.

Але як багатым, так і бедным трэба ранічкай 8 Сакавіка ўстаць раным-рана, каб прыбраць у кватэры, прыгатаваць нешта смачнае, купіць кветак і разбудзіць сваіх каханых, сказаўшы: "Ты ў мяне самая лепшая, і я для цябе гатоў горы звярнуць!".

Дык удачы вам, мужчыны!

**Алена УРБАНОВІЧ.**



Шчасце і ў тым, што вас любяць мужчыны.

Фота Petrosoft.

■ ВЕСНАВОЕ

## Віншаванні ад Таварыства беларускай мовы

ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны» шчыра віншуе вас са святам вясны 8 Сакавіка. У працяг традыцыі гэтага дня, які дастаўся нам з мінулага, мы схіляемся перад яе вялікасцю Жанчынай і жадаем вам, вашым сем'ям, сябрам, знаёмым моцы і шчасця, радасці і дабрабыту, плёну і здзяйснення ўсіх задумаў, мараў. Невыпадкова жаночы дзень адзначаецца вясною. Вясна ў прыродзе і жыцці чалавека — гэта абуджэнне, абнаўленне, надзея.

Жанчына-маці не толькі ахоўніца сваёй сям'і, але і захавальніца роднай мовы. Невыпадкова, калі мы гаворым пра нашую мову, дадаем — матчына.

Дарагія матулі і бабулі, дзяўчынкі, дзяўчаты і маладзіцы! Хай заўсёды з вашых вуснаў гучыць і набірае моц найпрыгажэйшае мілагучнае роднае слова. Хай палоніць яно душы і сэрцы тых, хто побач з вамі.

**Прынята на Сакратарыяце ТБМ.**

## Выпраменьваюць шчасце

**ВІЛЕЙКА. Больш за 2 месяцы ў гарадской бібліятэцы экспанавалася выстава вышыванак мясцовых бібліятэкараў. На ёй было прадстаўлена каля двух дзесяткаў карцін, вышытых крыжыкамі і гладдзю. Цудоўныя пейзажы вышылі Ганна Герко, Наталля Святоха, Яўгенія Гурновіч.**

Пенсіянерка Галіна Ткачэнка аддала ў бібліятэку вышыванкі, якія зрабіла паўвека таму. А Ала Каркоцкая займаецца тым, што вышывае гладдзю іконы.

**Марыя МІХАЙЛАВА.**

## Дыплом магістра

**АСТРАВЕЦ. Старшыня раённага аддзялення Саюза палякаў Беларусі Марына Тарарук на днях вярнулася з Беластока з дыпломам магістра педагогікі і псіхалогіі.**

На Астравеччыне яна стала другой уладальніцай падобнага дакумента. Першай была настаўніца польскай мовы Жанна Кісель.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ БУДЗЬЦЕ ПРЫГОЖЫМІ

# Не дазваляй сабе ленавацца!

**Хутка 8 Сакавіка, і кожная жанчына марыць быць не проста прыгожай, а каб вачэй не адвесці. Сядзьце перад люстэркам, паглядзіце на сябе і займіцеся сваім тварам. Я ўпэўненая, вы будзеце выглядаць на ўсе сто.**

Маскі – гэта адна з самых эфектыўных касметычных працэдур. Па меркаванні спецыялістаў, маскі дзейнічаюць на скуру больш энергічна, чым крэмы і іншыя касметычныя сродкі. Пры выбары маскі абавязкова трэба ўлічваць тып скуры.

### Сухая скура

Такая скура сустракаецца даволі часта. Яна тонкая і далікатная. Ёй увесь час патрабуецца дадатковае ўвільгатненне. Акрамя таго, яна патрабуе штодзённай падтрымкі ахоўнымі і сілкуючымі сродкамі.

Вазьміце 2 чайныя лыжкі Nivea Creme, 1 свежы яечны жаўток і 1 чайную лыжку алійкавага алею. Змешвайце ўсё гэта да таго часу, пакуль маса не стане бледна-жоўтага колеру і аднароднай. Нанясіце маску густым слоем на твар, шыю і вобласць дэкальтэ з дапамогай пэндзліка. Участкі вакол вачэй пакіньце адкрытымі. Яна расслабляе скуру, жывіць і падцягвае.

### Тлустая скура

Маскі для скуры, якая мае схільнасць да ўзмоцненай тлустасці і пачырванення, маюць, як правіла, вяжучую кансістэнцыю. Напрыклад, маска з нагаткоў: 1 сталовую лыжку настойкі нагаткоў развядзіце ў 100 мл вады і гэтым растворам змачыце тонкі слой ваты. Злёгку адціснутую вату, з прарэзанымі ў ёй адтулінамі для вачэй, рота і ноздраў, накладзіце на твар. Праз 15-20 хвілін маску здыміце.

Добрая для такой скуры і маска з міндальнага вотруб'я: 1 чайную лыжку ліпавага чаю заварыце ў палове шклянкі кіпеню, а затым заліце ім міндальнае вотруб'е. Маску 2-3 разы на тыдзень накладвайце на 15-20 хвілін. Курс складае 15 масак.

### Нармальная скура

Яна патрабуе мінімальнай колькасці касметычных сродкаў. Для ўмывання жанчынам з такой скурай лепш выкарыстоўваць мінеральную ваду.

### Лімонная маска

Дробна нарэзаны лімон заліце гарэлкай і дайце настаяцца 8-10 дзён. Атрыманую настойку працадзіце. На ачышчаную скуру твару пакладзіце тонкі слой ваты ці марлі з выразамі для вачэй, роту і ноздраў, змочаны настойкай. Праз 15-20 хвілін здыміце маску і пратрыце скуру сухім тампонам.

### Камбінаваная скура

Гэта найбольш распаўсюджаны тып скуры. Як правіла, Т-падобная частка твару (лоб, нос і падбародак) з'яўляецца зонай тлустай скуры, а шчокі, шыя і вакол вачэй – сухімі.

### Чароўныя кубікі

Прыгатаваць іх зусім нескладана: замарозьце ў спецыяльнай форме кіпячоную ці пітную ваду, дадаўшы мяту, меліссу, пятрушку ці ягады рабіны (усе яны валодаюць цудоўным танізуючым эфектам і аднолькава добрыя для ўсіх тыпаў скуры). Вельмі карысна рабіць маскі з банана: пакладзіце кашку з банана на твар і праз 20 хвілін змыйце цёплай вадой, а пасля апаласніце твар халоднай вадой.

**Проста МАРЫЯ.**

■ 8 САКАВІКА

# Юля і фігурнае катанне

**Мы разам з Юляй Ванслаў працавалі для "РГ" на футбольных матчах у Маладзечне. Яна тады пісала не толькі аб спорце, але, напрыклад, вяла яшчэ маладзёжную старонку. Ёй было ўсяго 15 гадоў, вучылася ў дзевятым класе. Пасля заканчэння школы, у 2000-м годзе, пераехала жыць у Мінск: працуе ў спартыўнай газеце "Прэсбол", завочна вучыцца на журфаку БДУ.**

— Ты пішаш у "Прэсболе" пра водныя віды спорту, у першую чаргу, пра плаванне, фігурнае катанне, валейбол, робіш агляды зімовых відаў спорту. Што самой найболып падабаецца?

— Фігурнае катанне. Гэтым прыгожым відам спорту "захварэла", калі ўбачыла па тэлевізары выступленні славутай танцавальнай пары Грышчук-Платаў. Наогул, думаю, амаль кожнай жанчыне падабаецца фігурнае катанне.

Магу пахваліцца, што ў беларускіх выданнях я пішу пра яго больш за ўсіх. Падрыхтавала нямала эксклюзіўных матэрыялаў са славутымі спартсменамі.



Спартыўны журналіст Юлія Ванслаў (злева) і італьянская адзіночніца Караліна Костнер у Маскве. Юлія Ванслаў пачынала кар'еру ў "Рэгіянальнай газеце" ў 15 гадоў.

Фота з архіва Юліі ВАНСЛАЎ.

— Падзяліся ўражаннямі, хто з сусветных зорак спадабаўся як чалавек, быў прыемным у гутарках?

— Ілья Аврбух. Яны з Ірынай Лабачовай у танцах з'яўляюцца чэмпіёнамі свету, былі другімі на Алімпіядзе 2002 года. Між іншым, яны муж і жонка, гэты сезон прапускаюць, бо ў хуткім часе народзіцца дзіця.

Ілья – таварыскі, адукаваны, дае разгорнутыя адказы, якія лёгка перанесці на паперу. Я брала ў яго інтэрв'ю два разы, мы перапісваемся па электроннай пошце.

Спадабалася размова з алімпійскім чэмпіёнам у адзіночным катанні Аляксеем Ягудзіным. Прыемна гутарыць з нашым гімнастам Іванам Іванковым, трохразовым чэмпіёнам свету.

— На якія міжнародныя спаборніцтвы ты выязджала?

— Была ў Расіі. На этапах серыі Гран-пры па фігурным катанні двойчы за свой кошт: у Санкт-Пецярбурзе ў 2001-м і ў Маскве ў 2003-м. Ездзіла за кошт рэдакцыі на чэмпіянат свету па плаванні на "кароткай" вадзе ў Маскву ў 2002-м.

— Творчыя планы?

— Я супрацоўнічаю з некаторымі замежнымі выданнямі, імкнуся пашыраць "геаграфію" сваёй творчасці. Хачу стаць вядомым журналістам, вырасці ў прафесійным плане.

— Жадаем табе новых уражанняў і веснавога настрою! Са святам!

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, МІЖСЕЗОННЕ

# «Смаргонь» правяла шмат матчаў

**Да старту чэмпіянату першай лігі засталося шэсць тыдняў. Ход перадсезоннай падрыхтоўкі ў клубах рэгіёну дазваляе зрабіць вывад, што іх фінансавыя магчымасці значна адрозніваюцца.**

### Смаргонь

Збор у Крыме ў Алушце расцягнуўся на два тыдні з лішкам. Каманда правяла шмат матчаў супраць сапернікаў з Украіны і Расіі. Іх вынікі галоўны трэнер Уладзімір Уткін дасылаў па мабільнай сувязі з дапамогай SMS-паведамленняў.

Спартак (Івана-Франкоўск) 1:1 (Кухлей).

Шахцёр-2 (Данецк) 2:4 (Вярбіцкі – 2).

Металург (Марыупаль) 0:0.

Днепр-2 (Днепрапятроўск) 1:1.

ФК "Масква" 1:0 (Судзін).

Крыўбас 0:1.

Цітан (Армянск) 3:2 (Канончанка – 2, Вярбіцкі).

ФК "Красілаў" 1:1 (Канончанка).

Баланс сустрэч: +2=4-2 9-10.

Аўтар галоў, нападаючы Канончанка, дагэтуль выступаў за "Шахцёр-2".

### «Маладзечна-2000»

Маладзечанцы – адзіныя ў першай лізе, хто яшчэ не пацвердзіў свой удзел у чэмпіянаце. Не аддадзены і доўг віцэблянам, што, нагадаем, пагражае знішчэм шансаў ачкоў і немагчымасцю дазаявіць новых футбалістаў да другога круга. У клубе цяпер проста няма чалавека, які б кіраваў ім у поўнай меры.

Трэнерам Віталю Казяку і Аляксандру Гармазе пры вырашэнні арганізацыйных пытанняў дапамагае Канстанцін Харламаў, які звольніўся з "Забудовы". Каманда працуе ў рэжыме двухразовых трэніровак. На полі СШ№5 праведзены спарынг.

28.02. Камунальнік (Слонім) 3:1 (Вяжэвіч – 2, Татун).

Рыхтуецца ў складзе больш за дзвацаць футбалістаў.

З тых, хто завяршаў мінулы сезон: мясцовыя **Дарахові, Дрозд, Вышынскі, Касцюк, Ляпета, Мятліцкі, Пятровіч, Савіцкі, Татун** і юнакі 1986-1987 г.н. з дубля, прыездныя **Афанасевіч** і **Крывіцкі.**

З "Забудовы" ўліліся: **Грыцук, Смірноў, Антановіч, Ясюкевіч.** Першыя двое раней гулялі за "Маладзечна-2000" у вышэйшай лізе.

Вярнуліся асобныя гульцы 1985 г.н. са Смаленска, якія выступалі за дубль у першым крузе: **Братчанка, Мальцаў** і з імі аднагодак **Яшын.**

Далучыліся двое прыездных паўабаронцаў. **Аляксандр Вострыкаў** (1979) раней выступаў у вышэйшай лізе, напрыклад, гуляў у нас у 1998-м і яшчэ ў 2000-м гадах, а летась 1 матч правёў за "Нафтан". **Вячаслаў Векшын** (1982) прыйшоў з дубля жодзінскага "Тарпеда", які летась заняў першае месца.

Гатовы дапамагчы роднай камандзе **Вяжэвіч** (1970) і **Абрамовіч** (1969), якія прыносілі ёй шмат поспехаў у дзевяностых. Мінулы сезон яны завяршалі адпаведна ў "Забудове" і ў дублі.

Хаця гульцоў хапае ажно на два склады, востра стаіць праблема з варатарамі і нападаючымі, бо ў наяўнасці ёсць толькі Абрамовіч з Братчанкам і Вяжэвіч з Грыцуком.

**Лявончык** тым часам падпісаў кантракт са сталічнай "Зоркай-ВА-БДУ" (Д1).

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ МІНІ-ФУТБОЛ

## Двое з рэгіёну

**МАЛАДЗЕЧНА. Занальны турнір чэмпіянату вобласці. 27-29 лютага.**

Двое лепшых – маладзечанцы і віляйчане – атрымалі права выступіць у фінальным турніры.

1. Маладзечна .............. 15
2. Вілейскі раён .............. 12
3. Валожынскі раён ......... 7
4. Заслаўе .............. 5
5. Маладзечанскі раён ... 3
6. Мядзельскі раён ....... 1

Першае месца дасталося гаспадарам за кошт перамогі над асноўным канкурэнтам з лікам 2:0. Цікава, што валожынцы саступілі маладзечанцам з мінімальным лікам, а вось віляйчанам – з разгромным.

У складзе Маладзечна найбольш галоў забілі **Дзмітрый Касцюк** (7) і **Мікалай Татун** (6), а ў Вілейскага раёна – **Дзмітрый Гулевіч** (10).

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

# Была такая каманда...

**Пачатак у нумарах за 30 студзеня, 6, 13 і 20 лютага.**

### Саюзны фінал 1964 года

**Пасля чэмпіёнскага сезона маладзечанскі "Спартак" апынуўся ў складаной сітуацыі, якая нагадвае лёс многіх беларускіх чэмпіёнаў у суверэнныя гады.**

Фабрыка музінструментаў не "вытрымала" футбольную нагрузку, і гульцоў сталі пакрысе "прапрацаладкоўваць" на іншыя прадпрыемствы. Назва каманды перамянілася на "Нарач". Яна стала як бы агульнагарадской, але пры гэтым і нічыёй канкрэтна.

Згодна з удакладненай інфармацыяй, трэцяе месца было занята ў 1965 годзе, а ў 1964-м "Нарач" фінішавала шостай. Цікава, што пры гэтым у занальных турнірах абодва разы было першае месца.

У кубкавым розыгрышы 1964 года багатым на падзеі стаў дамашні паўфінал супраць мінскага "Тарпеда", які 2 верасня сабраў 4 тысячы гледачоў. "Нарач" перамагла 4:3, але па ходзе сустрэчы пастаянна мусіла адыгрывацца (0:1, 1:2, 2:3). Галы ў нас забілі Берасneў, Садзердзінаў, Катоўскі і быў аўтагол у гасцей.

**6 верасня. Фінал. Стадыён "Дынама" (Мінск). 5000 гледачоў.**

**Гвардзеец (Мінск) – Нарач 3:1 (1:1 – асноўны час).**

**Склад: Пятрушын, Васаган, Бохан, А.Кандулінскі, Сіроткін, Берасneў, Шэлюх, Адзінцоў (Катоўскі), Садзердзінаў, Максімаў, Траскоўскі.**

Маладзечанцы адкрылі лік у першым тайме дзякуючы аўтаголу сапернікаў, але тыя пасля перапынку правялі мяч у адказ, а на апошніх хвілінах дадатковага часу вызначыліся яшчэ двойчы.

Такім чынам, другі год запар каманда трапляла ў розыгрыш Кубка СССР сярод КФК як фіналіст Кубка БССР. Усяго тут стартавалі 32 калектывы: 10 – з РСФСР, 4 – з Украіны, па 2 – з Беларусі, Казахстана і Масквы, па 1 – з астатніх саюзных рэспублік і Ленінграда.

**Працяг будзе.**

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

## Табло

■ БОКС

**Чэмпіянат Еўропы прайшоў у харвацкім Пуле з 18 лютага па 1 сакавіка.**

У катэгорыі звыш 91 кг **Аляксандр Апанасёнак** лёгка перамог **Клауса Бярціна** з Даніі, а потым не здолеў на роўных пасапернічаць з **Сяргеем Ражновым**, які прадстаўляў Балгарыю.

У выніку наш зямляк падзяліў 9-16 месцы і пуцёўку на Алімпіяду не здабыў. Цяпер, каб трапіць у Афіны, мусіць удзельнічаць у кваліфікацыйных турнірах.

■ ТАЙЛАНДСКІ БОКС

**Чэмпіянат краіны, Мінск. Выхаванцы клуба "Гладыятар" занялі першыя месцы і атрымалі права прадстаўляць рэспубліку на чэмпіянаце свету ў Тайландзе ў красавіку.**

Гэта студэнт 4 курса сталічнага МГЭІ **Аляксандр Панцюхоў** (91 кг) і вучаніца 9 класа **Ала Івашкевіч** (54 кг) з Чысці.

■ БАСКЕТБОЛ

**Балтыйская ліга. Мінск.**

Юніёрская зборная Беларусі правяла тры матчы, у двух – выйграла, адзін – прайграла.

27.02. Балтыйская зорка (Расія) 111:56.

28.02. Аудэнтэс (Эстонія) 91:61.

29.02. ТПУ (Эстонія) 64:66.

Рынкевіч і Дурайка вызначаліся ў кожным матчы, набіраючы ад 5 да 13 ачкоў.

■ ГАНДБОЛ

**АШМЯНЫ. Каманды ДЮСШ занялі прызавыя месцы на абласных Алімпійскіх днях моладзі 1987-1988 г.н., якія адбыліся з 27 лютага па 2 сакавіка ў Гродне. Прымалі ўдзел па восем каманд.**

Дзяўчаты пад кіраўніцтвам трэнера **Веры Мальцавай** занялі другое месца, саступіўшы ў фінале толькі два мячы. Хлопцы пад кіраўніцтвам трэнера **Міхаіла Прасняка** сталі трэцімі.

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**МАЛАДЗЕЧНА. Турнір гарадоў Беларусі. 28-29 лютага. Удзельнікі 1989 г.н. і меншыя.**

Выхаванцы маладзечанскай ДЮСШ занялі 6 першых месцаў з 18 нумароў праграмы.

Тройчы мацнейшым станавіўся **Дзмітрый Жыжла.** Яму пакарыліся скачковыя дысцыпліны: даўжыня, трайны, вышыня. У апошняй устанавіў рэкорд роднай ДЮСШ для свайго ўзросту – 195 см.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФІЗПАДРЫХТОЎКА

МЯДЗЕЛ. На чэмпіянаце Беларусі па агульнафізічнай падрыхтоўцы **Святлана Зарэцкая**, былая выхаванка Мядзельскай ДЮСШ, заняла ў складзе каманды Мінскай вобласці першае месца ў асабістым заліку.

Аддзел інфармацыі "РГ".

## Спартыўны лясгас

**АСТРАВЕЦ. Прафкам Астравецкага лясгаса заняў першае месца ў абласным конкурсе на лепшую арганізацыю фізкультурна-масавай і спартыўнай работы.**

Па словах старшыні прафкама Астравецкага лясгаса Ігара Пашкоўскага, сваёй спартыўнай базы ў іх няма. Яны дамаўляюцца з адміністрацыяй сельскіх школ і праводзяць трэніроўкі ў школьных спартыўных залах.

Святлана ЦІШКО.

# ВІНШАВАНКІ

**Сяргея Ладачкіна**
віншуем з 18-годдзем!
Жадаем моцнага здароўя, шчасця і поспехаў у вучобе.
Храни тебя Бог от житейских невзгод,
От тяжких болезней, душевных тревог.
Пусть будет побольше безоблачных дней,
Согретых любовью родных и друзей.
*Бабуля і дзядуля Ладачкіны.*
*Сям'я Пашкевічаў.*

**Данута Сігізмундаўна Канапелька.**
Любая бабуля!
Годы проходят, денёчки летят,
Не успел оглянуться – уже 55.
О том, что прошло, ты не жалей,
На ноги поставила своих ты детей.
В маленьких внуках опять повторится
Жизни твоей небольшая частица.
Пусть годы после юбилея,
Как прежде, будут хороши,
Здоровья, счастья и успехов
Тебе желаем от души.
*З любоўю нявестка і ўнукі.*

Маладзечанскі турклуб "Пілігрым" віншуе **Таццяну Калядзіч** і **Аляксандра Хаўрука** з днём нараджэння. Жадае моцнага здароўя, добрага настрою і ўсяго найлепшага.

• • •

**Алену Маркоўскую** сардэчна віншую з днём нараджэння! Сонейка, няхай вясенні настрой адорвае рамантычнымі момантамі для вялікага кахання. *Ад Валянціны.*

• • •

**Лізу Тафейку** віншую з днём нараджэння! Жадаю здароўя, слухацца тату і маму. *Цётка Таіса.*

• • •

**Лізу Тафейку** віншую з 6-годдзем! Жадаю здароўя і быць паслухмянай дзяўчынкай. *Хросная маці.*

• • •

**Людмілу Іванаўну Корсак** віншуем з днём нараджэння і святам 8 Сакавіка! Жадаем моцнага здароўя і шчасця. *Таіса, Валера, Іна.*

• • •

**Лідзію Іванаўну Марцюхову** віншуем з днём нараджэння! Няхай лёс дорыць здароўе, шчасце, радасць і любоў. *Калектыў сталовай №8.*

• • •

**Віталь Хацяновіч**, з 25-годдзем! Няхай табе спадарожнічаюць здароўе, каханне, удача і збываюцца ўсе мары. *З павагай сем'і Малько і Сіманчук.*

• • •

**Аляксандра Дземідовіча**, любага мужа і бацьку, віншуем з днём нараджэння! Здароўя, поспехаў, сямейнага дабрабыту. *Жонка Вольга, дачка Юлія.*

• • •

Маладзечанскі турклуб "Пілігрым" і аддзел фізічнай культуры, спорту і турызму Маладзечанскага гарвыканкама віншуе **калектыў ДЮСШ №1** аддзела адукацыі (дырэктар Уладзімір Ляшчынскі) з 20-годдзем. Жадаем супрацоўнікам поспехаў у рабоце, а выхаванцам новых рэкордаў.

• • •

**Аксану Паўловіч** віншуем з юбілеем! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, прыгажосці, дабра і цяпла. *Мама і тата.*

• • •

**Аксану Валер'еўну Паўловіч**, мілую сястрычку, віншую з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, поспехаў у працы, дабрабыту. *Віталіна.*

• • •

**Тамару Млечка** віншуем з 35-годдзем! Няхай табе спадарожнічаюць здароўе, каханне і ўдача. *Сям'я Аўгуць.*

• • •

**Андрэя Шакулю** з днём нараджэння. Ад душы табе шчасця жадаю і вялікага шчаслівага кахання! *Ганна Обара з Вілейкі.*

**Мілых, чароўных жанчын з "Рэгіянальнай газеты"** віншуюць са святам 8 Сакавіка калегі-мужчыны. Жадаем бязмежнага шчасця!

• • •

Мілыя жанчыны "Рэгіянальнай газеты" – **Ніна Манцэвіч, Марыя Бераснева, Жанна Суслава, Марына Сліж, Ірына Рабушка, Святлана Цішко, Аксана Кулеўніч, Валянціна Трацяк** – віншуем вас з восьмым днём вясны! *Доблесныя рыцары.*

• • •

Маладзечанскі турклуб "Пілігрым" віншуе **жанчын і дзяўчат рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты"** са святам 8 Сакавіка! Жадае добрага настрою, моцнага здароўя, эфектнай прэміі ад начальства і эфектыўных паходаў па магазінах.

• • •

**Жаночы калектыў "Рэгіянальнай газеты"** віншую з 8 Сакавіка! Жадаю поспехаў у працы. Так трымаць!!! *Кацярына.*

• • •

**Міколу Суслу** віншую з Міжнародным жаночым днём, як і абяцала. Жадаю ўсяго найлепшага. *Маша Юшкевіч.*

• • •

**Зінаіду Сяргееўну Трацяк**, любую матулечку, віншуем з цудоўным святам вясны! Квітней і радуйся жыццю! *Уладзімір і Валянціна.*

• • •

**Таісію Яўстаф'еўну Трацяк**, дарагую бабулю, віншуем з Днём жанчын! Моцнага табе здароўя і добрага настрою. *Унукі.*

• • •

**Таццяну Юшкевіч** і **Тамару Матыяшкойць** віншую з 8 Сакавіка! Жадаю здзяйснення ўсіх мар. Дачка і пляменніца *Маша Юшкевіч.*

• • •

**Калектыў магазіна "Ніва" №1** віншую з надыходзячым святам! Дзяўчаты, шчасця вам, здароўя і кахання. *Ганна.*

• • •

**Аленачка**, з надыходзячым святам! Будзь заўсёды такой жа мілай і прыемнай. Я цябе кахаю! *Саша Чараповіч.*

• • •

Паважаныя **жанчыны ПТВ-200**! Віншуем вас са святам вясны. *Мужчыны ПТВ-200.*

• • •

**Таццяну Літвіновіч**, любую сястру і цётку, віншуем са святам! Жадаем поспехаў у працы, шчасця, здароўя, моцнага кахання. *Карына Сільвановіч з Вілейкі.*

• • •

МА ГА "ХСДМ" віншуе **ўсіх сяброў і сябровак** з вясеннім святам! Цёплага паветра, пяшчотнага сонейка і больш добрых усмешак.

• • •

**Вольгу Літвіновіч**, любімую матулю і бабулю, віншуем з вясеннім святам. Жадаем вясенняга настрою, шчасця і здароўя. *Святлана і яе сям'я.*

• • •

**Святлану Сільвановіч**, любую сястру, віншую са святам 8 Сакавіка! Жадаю здароўя, шчасця, сонечнага неба і вясенніх усмешак. *Сястра Таццяна.*

• • •

**Наталлю Паслед** віншую з Днём 8 Сакавіка. Жадаю сямейнага шчасця, шмат грошай і добрых усмешак. *Сяброўка Таццяна.*

• • •

**Наталлю Крачкоўскую**, любімую матулю, віншуем з Днём 8 Сакавіка. Жадаем шчасця, моцнага здароўя і сямейнага дабрабыту. *Твая сям'я.*

• • •

**Галіну Іванаўну Карпач** віншуем са святам 8 Сакавіка! Жадаем здароўя, сямейнага дабрабыту і поспехаў у працы. *Андрэй, Вольга і Кірыл.*

• • •

**Вольгу Карпач**, каханую жонку, віншую са святам 8 Сакавіка! Жадаю моцнага здароўя, поспехаў і ўдачы ва ўсім. *Андрэй і Кірылка.*

• • •

**Тамару Аляксандраўну Баліну** сардэчна віншуем са святам 8 Сакавіка! Жадаем здароўя, шчасця і сямейнага дабрабыту. *Вольга, Андрэй і Кірылка.*

• • •

**Жанну Міхайлаўну Чумакову** віншую са святам жанчын. Вялікага шчасця, моцнага здароўя і доўгіх год. Дзякуй, доктар. *Жаўняровіч.*

**Дарагія жанчыны!**
Дырэктар ТДА «ШАРЛОТА» Сяргей Іванавіч Лабанаў віншуе ўсіх вас са святам. Няхай вашы вочы зззяюць шчасцем, унутранай вам гармоніі, а галоўнае – будзьце здаровымі!
Нашей фирме не нужна реклама –
Она в улыбке вашей на устах.
И даже самая капризная дама
Вас покидает без обиды на губах.
Когда, войдя в распахнутые двери,
Спешат мужчины с болью от мытарств,
Они в вас очень свято верят,
Не ощущая запаха лекарств.
Купаясь в аромате тонком
Духов, чарующих сердца,
И в голосе, как ручеёчке, звонком
Вы так прекрасны, как по утру роса.
Так обласкает пусть и ваши судьбы счастье,
Здоровье, радость не уйдут в ненастье.
Всех благ желает вам не кто-то,
***А надёжные мужчины от ОДО «ШАРЛОТА».***

**Таццяну Уладзіміраўну Шыбеку, Таццяну Іосіфаўну Драгун** віншую з жаночым днём! Здароўя, шчасця. *З любоўю брат і сын Іосіф.*

• • •

**Жанчын амбулаторыі в. Гародзькі** віншую з днём вясны. Жадаю здароўя, шчасця, кахання, сямейнага дабрабыту. *Тамара.*

• • •

**Таццяну Мамай з Вілейкі** віншую з жаночым днём 8 Сакавіка! Жадаю здароўя, поспехаў у працы, шмат грошай. *Таццяна Літвіновіч.*

• • •

**Алену Сільвановіч**, любую бабулю, віншую з жаночым днём. Жадаю здароўя, поспехаў у працы і вясенніх усмешак. *Унучка Карына.*

• • •

**Ірыну Ісаенку** і **Веру Міхалоўскую** віншую са святам! Жадаю поспехаў, моцнага кахання. *Кацярына.*

• • •

**Аксану Усовіч** віншую з жаночым днём 8 Сакавіка! Жадаю кахання, поспехаў у працы і вясенняга настрою. *Хросніца Карына.*

• • •

**Зою Басацкую**, любую матулю, віншую з жаночым днём. Жадаю душэўнага цяпла, бадзёрасці, аптымізму і вясенняга настрою. *Сын Леанід.*

• • •

**Сваю бабулю** віншую з Днём 8 Сакавіка. Жадаю моцнага здароўя, поспехаў, анёла ахоўніка. *Кацярына.*

• • •

**Вольгу Літвіновіч**, любую матулю, віншую са святам 8 Сакавіка. Жадаю здароўя, душэўнага цяпла, шмат грошай, вясенняга настрою. *Дачка Таццяна.*

• • •

**Калектыў "Салона прыгажосці"** віншую са святам 8 Сакавіка. Жадаю поспехаў у працы. *Кацярына.*

• • •

**Тамару Рыгораўну** і **Лану Куракіных** віншуем з надыходзячым святам! Шчасця, кахання, здароўя. *Сям'я Чараповічаў.*

• • •

**Жанчын Вілейскага каледжа** з надыходзячым святам! Шчасця, кахання, заставацца такімі ж прыгожымі. *З павагай гр. 3 "АК".*

• • •

**Сваю матулю** віншую са святам 8 Сакавіка! Жадаю моцнага здароўя, поспехаў ва ўсім і ўсюды. *Кацярына.*

• • •

Матулечку **Ганну Чараповіч** віншую з надыходзячым святам! Здароўя, апекі Маці Боскай. Мы цябе любім! *Твая сям'я.*

• • •

**Лізачку Жаўток** віншую з Днём 8 Сакавіка. Жадаю моцнага здароўя, расці прыгожай і паслухмянай. *Кацярына.*

**Ірыну Іванаўну Тафейку** віншую са святам 8 Сакавіка! Уздымем поўныя келіхі за цябе і тваю дачушку. *Твае родныя.*

• • •

**Жанну Мікалаеўну Мандрык** віншуем са святам 8 Сакавіка. Заставайся такой жа прыгожай і добрай. Шчасця табе і здароўя. *Сябры.*

• • •

Цётку **Таццяну Жаўток** віншую з Днём 8 Сакавіка. Жадаю моцнага здароўя і шмат грошай. *Кацярына.*

• • •

**Вера Міхайлаўна Рогач**! Віншую Вас са святам 8 Сакавіка. Жадаю Вам моцнага здароўя і шчасця. *Сяброўка Таіса.*

• • •

**Валянціну Паўлаўну Шчучко** віншую са святам 8 Сакавіка. Здароўя, сямейнага дабрабыту, шчасця, усмешак, поспехаў. *Таіса.*

• • •

**Ганна Антонаўна Тамашэвіч**, дарагая матулечка! Віншуем са святам 8 Сакавіка. Жадаем моцнага здароўя, мы цябе любім. *Дочкі.*

• • •

**Іну Корсак** віншую са святам 8 Сакавіка! Жадаю шчасця, здароўя, удачы. Я цябе кахаю. *Аляксей.*

• • •

**Алену Міцько** віншую з Днём 8 Сакавіка. Моцнага здароўя і шмат кахання. *Кацярына.*

• • •

**Вольгу Курапацкую** віншую са святам 8 Сакавіка. Жадаю здароўя, поспехаў у вучобе, кахання. *Кацярына.*

• • •

**Групу 35-1 Маладзечанскага гандлёва-эканамічнага каледжа** віншую з заканчэннем 5 курса і пачаткам дзяржаўных экзаменаў. *Кацярына.*

• • •

**Ірыну Алейзаўну Чарнецкую** віншуем са святам 8 Сакавіка. Каб век не ведаць, дзе што баліць, і, прыпяваючы, 100 год пражыць. *Калектыў сталовай №8.*

• • •

**Таццяна Браніславаўна Святоха**, дарагая матулечка! Віншую цябе са святам жанчын! Будзь заўсёды шчаслівай і здаровай. *Твой сын Жэня.*

• • •

**Аксана Браніславаўна Івашкевіч**, дарагая матулечка, віншую са святам 8 Сакавіка! Шчасця табе і здароўя. *Твая Віка.*

• • •

**Валянціна Баляславаўна Святоха**, дарагая бабуля! Са святам 8 Сакавіка! Здароўя і дабрабыту, няхай беражэ Вас Бог! *Унукі Жэня і Віка.*

• • •

**Віка Івашкевіч**, дарагая сястрычка! Са святам 8 Сакавіка! Поспехаў у вучобе і бадзёрага настрою. *Твой брацік Жэня.*

• • •

**Алену Іванаўну Лемяшонак** з Касцяневіч віншуем са святам 8 Сакавіка! Жадаем шчасця, здароўя і дабрабыту. *Сям'я Святохаў.*

• • •

**Галіну Іванаўну Рухлю** віншую з Днём 8 Сакавіка. Добрага здароўя Вам, дабрабыту і радасці ў дзецях і ўнуках. *Маша.*

• • •

**Веру Карповіч** віншую са святам жанчын! Няхай у душы заўжды будзе вясна. *Маша.*

• • •

**Зою Іосіфаўну Нелюб** віншую з Днём 8 Сакавіка! Жадаю здароўя, добрага настрою і дабрабыту. *Марыя.*

• • •

**Настачку Нелюб**, маю хросную дачушку, віншую з Днём 8 Сакавіка. Няхай у жыцці табе свеціць сонейка і асвятляе ўсё навокал. *Хросная маці.*

• • •

**Ніну Садоўскую** віншую са святам жанчын! Здароўя, шчасця, поспехаў, удачы! *Марыя.*

• • •

**Наталлю Царэшка** шчыра віншую са святам вясны! Яскравага табе сонейка і душэўнага спакою. Дзякуй за тое, што ты побач! *Ад сябра.*

• • •

**Наталлю Мацюшову**, дарагую матулечку, віншуем са святам 8 Сакавіка! Жадаем шчасця, здароўя і поспехаў. *Муж і сыны.*

Магазін аўтазапчастак сардэчна віншуе **лепшую палову чалавецтва** з цудоўным і светлым святам вясны – Міжнародным жаночым днём!
Яскравых вам усмешак, цёплага паветра, пяшчотнага сонейка, цікавых падарожжаў.
Радуйце свет сваёй прыгажосцю і дабрынёй!
**ПЯТОЕ КОЛЕСО**

Каханую **Таццяну Шарафановіч** віншую з Днём 8 Сакавіка! Сонейка, няхай збудуцца ўсе твае мары ў жыцці. *Сяргей.*

• • •

**Святлану** і **Зою Цішко** віншую са святам. Жадаю шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту. *Брат і сын.*

• • •

**Жанчын калектыву "Рэгіянальнай газеты"** віншую са святам! Жадаю творчага натхнення. *Валянцін Уладзіміравіч.*

• • •

**Дзяўчат 8 "Б" СШ №11** віншую са святам! Жадаю шчасця і кахання. *Валянцін.*

• • •

**Жанчын калектыву ЦПР** са святам 8 Сакавіка! Жадаю ўсяго самага яскравага. *Валянцін.*

• • •

**Насцю Нарэйку** віншую са святам! Жадаю шчасця, кахання і яснага сонейка. *Сябар.*

• • •

**Наталлю Бялкову** і **Тамару Навіцкую**, а таксама яе дочак **Вольгу, Кацярыну** і **Надзею** віншуем са святам 8 Сакавіка! Жадаем вясенняга настрою, поспехаў у рабоце і вучобе, усяго найлепшага. *Мужчыны Бялковы.*

• • •

**Аліну Іосіфаўну Ткачэнку** і **Ірыну** з надыходзячым святам 8 Сакавіка! Жадаю здароўя, шчасця, удачы, дабра і цяпла. *Пляменніца Кацярына.*

• • •

**Лілю Іосіфаўну Лаўрыновіч** з надыходзячым святам 8 сакавіка. Жадаю сямейнага дабрабыту, выдатнага настрою і доўгіх год жыцця. *Дачка.*

• • •

**Святлану** і **Таццяну Андрашчук** з надыходзячым святам 8 Сакавіка! Жадаем шчасця, добрых усмешак і сонечнага неба. *Сябры Каця і Дзяніс.*

• • •

**Ірыну, Ксюшу** і **Яну Лаўрыновіч** з надыходзячым святам 8 Сакавіка! Жадаем сямейнага дабрабыту, шчасця і ўсяго найлепшага. *Сям'я Адарычэнкаў.*

• • •

**Маці Вольгу** і **сястру Таццяну** з Днём 8 Сакавіка! Няхай шчасцем поўняцца вашы вочы. *Ганна.*

• • •

**Таццяну Аршынскую** віншуем са святам 8 Сакавіка! Жадаем шчасця, здароўя, кахання, сямейнага дабрабыту. *Муж Пеця, Варвара.*

• • •

**Любую матулю** і **бабулю Раю** віншуем са святам 8 Сакавіка! Жадаем шчасця і здароўя. *Сям'я Аўгуць.*

• • •

**Ніну Гардынец** віншуем са святам 8 Сакавіка! Шчасця, здароўя, кахання і ўдачы. *Сям'я Аўгуць.*

• • •

Дзяўчат **Таню** і **Леру Каркоцкіх** віншуем са святам 8 Сакавіка! Жадаем шчасця, здароўя, дабрабыту. *Бацькі і сястра.*

• • •

**Вольгу Мількоту** віншую са святам 8 Сакавіка! Жадаю моцнага здароўя. *Варвара.*

• • •

**Калектыў дзяўчат гасцініцы "Вілія"** віншую са святам 8 Сакавіка! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, кахання. *Адзіны мужчына.*

• • •

**Настаўніцам гімназіі №2 з Вілейкі**! Жадаю на вашым жыццёвым шляху сустракаць толькі ўсмешкі, спагаду, каханне. *Вучаніца.*

• • •

**Людміле Іосіфаўне Рослік**! Жадаю шчасця і цяпла, сяброў сардэчных і дабра. Жыць шчодра, весела і смела! *Аня з Вілейкі.*

## Кінатэатр «Радзіма»

**5-8 сакавіка. Прэм'ера. "Спецназ горада анёлаў"**, ЗША, баявік, акрамя асоб да 16 год. Сеансы: 5 сакавіка – у 17.00, 19.00 і 21.00; 6-8 сакавіка – у 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00.
**9-14 сакавіка. Прэм'ера. "Скарб Амазонкі"**, ЗША, прыгоды – у 17.00, 19.00 і 21.00.
**Для дзяцей**
**6 сакавіка. "Вярніце Рэкса"**, Расія, мультпраграма – у 13.00.
**7 сакавіка. "Прыгоды Бураціна"**, Расія, мультпраграма – у 13.00.
**8 сакавіка. "Зладзюжкі"**, ЗША, камедыя – у 13.00.
Кожную суботу ў 21.00 – дыскатэка.
Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

## ■ ІМЯНІНЫ

**5 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Агафона, Карнілы, Льва.
**Каталіцкія**: Андрыяна, Вацлава, Тэафіла, Фрыдэрыка.
**6 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Астапа, Георгія, Цімафея.
**Каталіцкія**: Ружы, Віктара.
**7 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Апанаса, Маўрыкія, Фёдара.
**Каталіцкія**: Пярпетуі, Феліцыты, Паўла.
**9 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Івана.
**Каталіцкія**: Кацярыны, Францішкі.
**10 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Тараса.
**Каталіцкія**: Марцэля, Цыпрыяна.
**11 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Парфірыя, Севасцьяна.
**Каталіцкія**: Бенядзікта, Канстанты.

## Купон 10

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

## ■ КОНКУРСЫ

# Прыз – відэакасета

Імя і прозвішча вядомай актрысы, якая ў адным з савецкіх фільмаў сыграла ролю цыганкі, Святлана Тома, правільна назвалі 19 чалавек.

Прыз дастанецца **Максіму Захарычу** з Маладзечна, які правільна адказаў на пытанні, і арыгінальна аформіў адказ. Максім, заходзьце да нас у рэдакцыю па сертыфікат. Касету можна атрымаць у пунктах продажу аўдыё- і відэатавараў у "Дзіцячым свеце", "Пасажы", на калгасным рынку і мінірынку "1000 дробязяў".

Новае заданне і правілы гульні. Сёння вам прыйдзецца папацець над пажаданнем да ўсіх чытачоў "РГ". Каб разгадаць яго, трэба: па-першае, адказаць на пытанні, да кожнага з якіх даюцца тры варыянты адказаў, адзін з іх – правільны; па-другое, з кожнага слова-адказу ўзяць першыя літары і запісаць іх у клетачкі, лічбы якіх адпавядаюць нумарам пытанняў.

[22][9][19][12][6][18][1], [14][4][13][11][16][5] [15] [7][17][3][8][20][10][Ы][21][2]!

1. З якога дрэва, паводле Біблії, Ева сарвала ў Эдэмскім садзе забаронены плод? (Вішня. Груша. Яблыня.)

2. Хто з персанажаў казкі пра рэпку трымаўся за бабку? (Мышка. Жучка. Унучка.)

3. Для якой з гэтых жанчын несла піражкі Чырвоная Шапачка – гераіня вядомай казкі? (Бабуля. Маці. Свякроў.)

4. Што з пералічанага з'яўляецца атрыбутам жанчын у некаторых мусульманскіх краінах? (Фата. Чадра. Сары.)

5. У якой з гэтых краін жанчыны носяць кімано? (Індыя. Кітай. Японія.)

6. Сапраўднае імя славутай актрысы Мэрылін Манро? (Карын. Луіза. Норма.)

7. Як называюць жанчыну, якая танцуе ў пары з кавалерам? (Дама. Барыня. Какетка.)

8. Хто з гэтых мастакоў напісаў карціну "Украінка каля плятня?" (Пяроў. Рэпін. Шышкін.)

9. Краіна, дзе нарадзілася Маці Тэрэза, атрымаўшая за сваю дабрачыннасць Нобелеўскую прэмію міру? (Грэцыя. Турцыя. Албанія.)

10. Як звалі дачку Юрыя Радзівіла, якая ў сярэдзіне 16 стагоддзя стала польскай каралевай? (Барбара. Ганна. Тэафілія.)

11. Які з гэтых пеўчых галасоў з'яўляецца жаночым? (Барытон. Сапрана. Тэнар.)

12. Сапраўднае імя французскай пісьменніцы Жорж Санд? (Аўрора. Жанна. Сільвія.)

13. Як звалі мужа Пенелопы, якога, паводле грэчаскага эпасу, яна чакала з вандравання на працягу 20 гадоў? (Адысей. Сіндбад. Ясон.)

14. Хто атрымаў перамогу на першым афіцыйным чэмпіянаце Еўропы па футболу сярод жаночых каманд у 1984 годзе? (Італьянкі. Немкі. Шведкі.)

15. Як звалі іспанскую дзяўчыну, сэрца якой не змог пакарыць славуты Джавані Казанова? (Ігнасія. Федэрыка. Адэліна.)

16. Як называецца фільм Р. Аляксандрава, у якім (1936 год) здымалася знакамітая актрыса Любоў Арлова? ("Карнавал", "Цырк", "Вяселле".)

17. Якая з гэтых расійскіх спявачак выступала раней у гурце "Камбінацыя"? (Апіна. Варум. Салтыкова.)

18. Як называюць сынаву жонку? (Залоўка. Швагерка. Нявестка.)

19. Якая тэлевядучая брала ўдзел у стварэнні шоу-праграмы "Пра гэта"? (Пушкіна. Ханга. Дубавіцкая.)

20. Якая з гэтых актрыс сыграла галоўную ролю ў тэлесерыяле "Дзікі анёл"? (Кастра. Арэйра. Фішэр.)

21. Як называецца легендарны балет Алы Духавай? ("Тодэс". "Рэцытал". "Харошкі".)

22. Васковая фігура якой беларускай жанчыны знаходзіцца ў Лонданскім музеі Мадам Цюсо? (Станюта. Корбут. Цётка.)

Адказаў чакаем 10 дзён.

**Конкурс вядзе Мікола ЛІПСКІ.**

